№ 7 (217)
22 – 28 лютага 2002 г.
Заснавана ў ліпені 1997 г.

http://kapp.nsys.by

# рабочы

ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА



## Не заглядывая в даль, мы согласны на медаль...




19 февраля в финале соревнований фристайлистов-акробатов 22-летний Алексей Гришин занял третье место и стал первым беларусским спортсменом, который сумел завоевать медаль на нынешней зимней Олимпиаде.

Появилась надежда на медаль и в хоккее. Несмотря на то, что сборная Беларуси по хоккею потерпела три поражения (от сборной России 4:6, Финляндии – 1:8 и США – 1:8), оказавшись таким образом на последнем месте в группе "D", в четвертьфинале наша команда выиграла у сборной Швеции со счетом 4:3. «Золотой» гол забил Владимир Копать. На высоте положения всю игру был вратарь беларусской сборной Андрей Мезин. Впереди – полуфинал. А с ним – новые надежды.

Участие в остальных видах спорта оставляет желать лучшего. Беларусская фристайлистка Алла Цупер вышла на девятое место в финальном соревновании акробатов.

У женской сборной Беларуси по биатлону в составе Ольги Назаровой, Людмилы Лысенко, Евгении Куцапаловой и Елены Хрусталевой седьмое место в олимпийской эстафете 4 по 7,5 километра.

21 февраля вылетает домой группа наших спортсменов и тренеров – 59 человек: хоккеисты, биатлонисты и конькобежцы.

Не обошлось без скандалов. Шеф беларусской олимпийской миссии Ярослав Баричко отстранен от выполнения обязанностей. События развивались следующим образом. Беларуску Юлию Павлович, участвовавшую в соревнованиях по шорт-треку, уличили в применении допинга. Однако, как выяснилось, один из сотрудников, сопровождавший специальный контейнер с несколькими взятыми образцами пробы, вскрыл его, чтобы положить туда необходимые документы, и не запечатал затем должным образом. Из-за этого результаты анализа могли быть легко опротестованы. Поэтому представители медицинской комиссии МОК попросили беларусскую спортсменку в сопровождении врача и шефа миссии Ярослава Баричко явиться для прохождения повторного теста. Но никто из них не пришел. После этого исполком МОК, подозревая, что беларусские официальные лица помогли спортсменке избежать допинг-контроля, предложил Ярославу Баричко покинуть Солт-Лейк-Сити. Спортсменке запрещено участвовать в Олимпийских играх-2002. При этом заметим, что на других беларусских атлетов санкции не распространяются. МОК намеревается провести расследование всех обстоятельств этого дела.




## Каханне па-маладафронтаўску-6

**14 лютага Малады Фронт шосты раз адзначыў у Беларусі Дзень Святога Валянціна, ці Дзень закаханых, як яго часцей называюць. Рэакцыя ўладаў была моташная на звыклай: дзесяткі маладых людзей у Мінску затрыманыя і жорстка збітыя міліцыянтамі.**

У гэты дзень а 17-й вечара моладзь сабралася на пляцы Я. Коласа. Хлопцы і дзяўчаты прыйшлі з сэрцайкамі-"валянцінкамі", каб віншаваць мінчукоў са святам закаханых, з адмысловымі ліхтарыкамі, са сцягамі іншых дзяржаваў, што сімвалізавалі прыхільнасць беларускай моладзі да Эўропы. Некаторыя былі апранутыя ў нацыянальныя строі эўрапейскіх краінаў. Шэсце мелася быць вясёлае і карнавальнае. Свята моладзі сапсавалі амапаўцы з дубінкамі.

Міліцыянты са злосцю пачалі вырываць бел-чырвона-белыя палотнішчы і сцягі Еўрасаюза, крэмзаць на кавалкі і прымушаць удзельнікаў свята разыходзіцца. Некалькі соцень чалавек з 7-метровай расцяжкай "Малады Фронт" рушылі ўздоўж праспекта Ф. Скарыны, скандуючы: ***"Жыве Беларусь!", "Беларусь – у Еўропу!"***. Калона прайшла ад пляца Я. Коласа да Акадэміі навук не перашкаджаючы дарожнаму руху і не ўчыніўшы беспарадкаў, потым збочыла на вул. Б.Хмяльніцкага і дварамі зноў выйшла на праспект. Тут і пачаўся "хапун".

З падлеткамі важкія амапаўцы паводзілі сябе надзвычай "неадэкватна", з усяго маху абрушваючы ўдары дубінкамі нават на дзяўчатаў. Агрэсіўна накідваліся і на журналістаў. Аператара ГРТ Сяргея Гельбаха так шугануді, што той паваліўся на зямлю разам з камерай. Сам начальнік Савецкага РУУС палкоўнік Мікалай Бусло з усяе моцы ўдарыў па мікрафоне журналісткі "Радыё Рацыя" Юліі Шаровай, і толькі выпадкова тэхніка не разбілася.

*Працяг на стар.3.*

## Независимое профсоюзное движение выбрало нового президента

### ИМ СТАЛ ПРЕДСЕДАТЕЛЬ МИНСКОЙ РЕГИОНАЛЬНОЙ ОРГАНИЗАЦИИ СВОБОДНОГО ПРОФСОЮЗА БЕЛАРУССКОГО (СПБ) НИКОЛАЙ КАНАХ



85 делегатам отчетно-выборного съезда Беларусского Конгресса демократических профсоюзов (БКДП), прошедшего 16 февраля в Минске, пришлось поломать голову. На пост президента Конгресса баллотировалось сразу три претендента. Голоса распределились следующим образом: за и.о. президента БКДП, председателя Демократического профсоюза транспортников Владимира Макарчука – 5 человек, за председателя Свободного профсоюза Беларусского (СПБ) Геннадия Быкова – 30 человек, за председателя Минской региональной организации СПБ Николая Канаха – 49 человек. Новый лидер национального профцентра в своей программной речи высказался за консолидацию и рост демократических профсоюзных рядов, активизацию деятельности профсоюзных организаций. Интервью с начинающим президентом БКДП Николаем Канахом читайте в ближайших номерах газеты «Рабочы».



АД СЕРАДЫ ДА СЕРАДЫ

### ДЭКРЭТ

Штрафы і стыпендыі больш не будуць вымярацца ў мінімальных заробках – такую норму прадугледжвае нядаўна прыняты дэкрэт А.Лукашэнкі «Аб некаторых пытаннях рэгулявання мінімальнай заработнай платы (МЗП)». Цяпер «мінімалкай» будуць аперыраваць выключна ў сферы працоўных адносінаў. 31 сакавіка памер МЗП складзе 17 тысяч рублёў. А вось штрафы, стыпендыі, дапамогі цяпер будуць вымярацца "базавай адзінкай", якая па першым часе складзе 10 тысяч рублёў.

### ІЛЬГОТЫ

Мяркуецца, што да канца 2002 года ўсе цяперашнія льготнікі будуць у той ці іншай ступені аплачваць праезд у гарадскім транспарце. Адмысловыя захады Міністэрства транспарту і камунікацый узгадняе цяпер з Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны.

### ПАШПАРТ-ВІЗА

З 1 сакавіка пашпартна-візавая служба і міжраённыя рэгістрацыйна-экзаменацыйныя аддзелы будуць працаваць без выхадных і да позняга часу: зімой – да 20.00, летам – да 21 гадзіны. З 1 чэрвеня 2002 г. пашпартна-візавая служба МУС плануе пачаць выдачу замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Беларусі (каля 200 тысяч чалавек), замест даведкі – від на жыхарства.

### КУЛЬТУРА

У Беларусі створана грамадскае аб'яднанне "Міжнародная Рада па помніках і мясцінах" (больш вядомая пад абрэвіятурай ICOMOS. На чале беларускай ICOMOS стаў старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп. Міжнародная Рада існуе з 1965 года, Беларусь стала апошняй краінай Еўропы, дзе з'явілася ICOMOS. Адным з асноўных накірункаў дзейнасці Беларускай Рады ICOMOS "павінна стаць выкананне важнай ролі падчас выпрацоўкі заключэнняў ЮНЕСКО па культурных набытках, якія павінны быць далучаны да Спісу сусветнай спадчыны".

### ЦЭНТР

У Мінску адкрыўся Цэнтр медыка-сацыяльнай дапамогі, які будзе дапамагаць уцекачам, асобам, што шукаюць прытулак, астатнім асобам. Праект выконваецца Беларускім таварыствам Чырвонага Крыжа. Прыблізна раз на месяц па дамове з органамі аховы здароўя ў Цэнтры будзе праводзіцца бясплатны прыём акуліста, эндакрынолага і іншых урачоў.

### КНІГІ

12–15 лютага ў Мінску адбыўся Беларускі кніжны кірмаш, які падсумаваў вынікі дзейнасці выдавецкай галіны. У 2001 г. у Беларусі было выдадзена 7944 найменні кніжнай прадукцыі, у тым ліку на беларускай мове – 822 найменні. У параўнанні з 2000 г. агульная лічба ніжэйшая, але беларускамоўная прадукцыя крыху "вырасла" – на 8% па найменнях і на 10,1% – па тыражах, што вельмі прыемна.

## ШТО БАРОНІМ

Курапаты, урочышча пад Мінскам, дзе ў 1937–1941гг. органы НКУС БССР праводзілі масавыя расстрэлы цывільных грамадзян. За 200 м на паўночны захад ад мікрараёна Зялёны Луг, на тэрыторыі Бараўлянскага сельсавета Мінскага р-на. Як месца масавых расстрэлаў Курапаты сталі шырока вядомыя грамадскасці ў 1988 пасля публікацыі артыкула З.Пазняка і Я.Шмыгалёва. У 1988 г. пачалося крымінальнае следства і створана ўрадавая камісія, якія афіцыйна пацвердзілі факт існавання ў Курапатах пахаванняў расстраляных з 2-й паловы 1930-х гадоў да пачатку Вялікай Айчыннай вайны цывільных грамадзян. Выяўлены больш за 500 магільных западзін памерамі ад 1х2 м да 5х8 м, месца агароджы з ровам каля яе. Паводле папярэдніх падлікаў, у Курапатах магло быць расстраляна ад 30 да 100 тысяч чалавек. Ва ўшанаванне памяці ахвяр пастаўлены крыжы, камень, шчыт з надпісам, мемарыяльная пліта. (**Ад рэд.** – Напрыканцы мінулага года Пракуратура Рэспублікі Беларусь яшчэ раз пацвердзіла, што ва ўрочышчы Курапаты карныя органы ў 1937–1941 гг. праводзілі масавыя расстрэлы грамадзян нашай краіны.)

*(Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1995. С. 411 - 412.)*

## КОЖНЫ ГОЛАС БУДЗЕ ПАЧУТЫ

**Шаноўныя чытачы газеты “”Рабочы”. З гэтага нумара наша выданне пачынае друкаваць матэрыялы, якія датычаць апісання ідэі ці праекта мемарыяла, які неабходна пабудаваць у Курапацкім лесе. Сёння мы знаёмім усіх зацікаўленых з пазіцыяй шэрагу грамадскіх дзеячаў, якія яшчэ ў верасні мінулага года аб’ядналіся ў кааліцыі “За ўратаванне мемарыяла Курапаты” і “Моладзь у абарону Курапатаў”.**

**Свае лісты з прапановамі, праектамі, ідэямі накіроўвайце на імя газеты “Рабочы” ці на імя грамадскага аб’яднання “Беларуская арганізацыя працоўных жанчын”. Тэлефон-факс (017) 227-13-16, 227-03-61, адрас: 220030, Мінск, пл. Свабоды, 23—16А.**

**Збор прапаноў працягнецца да 1 мая 2002 года. Газета “Рабочы” абязуецца друкаваць кожную думку. Чакаем! Будзем вельмі ўдзячныя за фотаздымак.**

*Не тапчыце траву,*
*не чапайце сякераю дрэвы,*
*Заглушыце прыймач —*
*тут ня месца вясёлых уцех.*
*Хай гамоняць вятры,*
*хай галосяць дажджы і залевы,*
*Хай шапоча наўкол*
*патаемнымі словамі сьнег.*
*Не чапайце, не тапчыце, заглушыце...*
*Хай гамоняць, хай галосяць,*
*хай шапоча...*
*Толькі сьвечку, толькі сьвечку*
*запаліце.*
*Ды дубочак пасадзіце, ды дубочак.*

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ.**

# КУРАПАТЫ: ЯКІМ БУДЗЕ НАРОДНЫ МЕМАРЫЯЛ?

### ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА

Пастановай Савета Міністраў Беларускай ССР ад 18 студзеня 1989г. вызначана, што ва ўрочышчы Курапаты “будзе пабудаваны помнік ахвярам масавых рэпрэсій 1937—1941 гадоў”. У 1993 г. гэтаму лясному масіву на ўскраіне Мінска быў нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі як месцу згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій.

На жаль, месца пахаванняў бязвінных ахвяраў шмат разоў па-варварску руйнавалася. У 1960-х гг. праз тэрыторыю Курапатаў былі пракладзеныя Мінская кальцавая дарога і газаправод; неаднойчы ва ўрочышчы вяліся самавольныя раскопкі магілаў. У верасні 2001 г. – без праектнай дакументацыі і публічнага абмеркавання – пачалося пашырэнне Мінскай кальцавой дарогі. А мемарыяла да гэтай пары няма. Таму беларуская грамадскасць узнялася на абарону Курапатаў.

### ШТО ПРАПАНУЮЦЬ

Сябры грамадскай ініцыятывы “За ўратаванне мемарыяла Курапаты” і “Моладзь у абарону Курапатаў” лічаць, што дзеля захавання Нацыянальнага Некропаля неабходна завяршыць мемарыялізацыю Курапатаў, пачатую, згодна з пастановай Савета Міністраў БССР, яшчэ ў 1989 г.:

**1.** Дзяржава павінна належным чынам забяспечыць ахоўны статус урочышча Курапаты – “гісторыка-культурнай каштоўнасці 1-й катэгорыі”. Дзеля захавання ландшафту тут мусіць быць забаронена правядзенне любых земляных работ.

**2.** Неабходна пазначыць тэрыторыю ахоўваемай зоны. Паводле беларускіх традыцый ушанавання і аздаблення могільнікаў, па ўсім перыметры акрэсленай тэрыторыі належыць устанавіць агароджу (плот), выробленую з традыцыйных матэрыялаў – каменя, цэглы, каванага металу; а таксама ўзвесці ўваходную браму (брамы). Каля брамаў варта размясціць карту-схему тэрыторыі з вызначанымі археолагамі абрысамі месцаў пахаванняў, бо сляды многіх магіл у лесе “сцерлі” дажджы і расліны.

**3.** Устаноўлены ў 1989 г. Крыж пакуты павінен застацца дамінантай будучага мемарыяла. Варта ўпарадкаваць тэрыторыю вакол, спраектаваць падыходы, сцежкі, паставіць лавы. На тэрыторыі ахоўваемай зоны павінны застацца крыжы, пастаўленыя па перыметру ляснога масіву падчас акцый абароны Курапатаў у 2001–2002 гг. (колькасць іх можа расці).

**4.** Пры стварэнні мемарыяла трэба захаваць той эмацыянальны акцэнт, які надае Курапатам прасека, што вядзе да ўзгорка. Вобраз Шляху пакуты (Галгофы) могуць дапаўняць іншыя помнікі і памятныя знакі (у памяць загінуўшых тут іудзеяў, мусульман).

**5.** Лічым мэтазгодным узвядзенне на месцы закладного каменя ад Савета Міністраў БССР помніка ці кампазіцыі, адпаведных і сумаштабных тэрыторыі магільніка.

**6.** Храмы розных канфесій і музей ахвяраў таталітарнага рэжыму, які будзе створаны ў перспектыве, павінны быць вынесены за межы ахоўнай зоны, каб выключыць любую магчымасць правядзення земляных работ на тэрыторыі Некропаля.

**7.** Цалкам некранутымі варта пакінуць ямы-магілы: яны найбольш моцна ўздзейнічаюць на свядомасць і ўяўленне людзей. За магіламі неабходна ўсталяваць санітарны нагляд, а таксама кантроль за ўстаноўкай новых крыжоў і іншых памятных знакаў.

### ГАЛОЎНАЕ

Мемарыял павінен стаць помнікам у памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, ён павінен засведчыць асуджэнне палітыкі генацыду таталітарнага савецкага рэжыму.

Пасля публічнага абмеркавання і ўнясення адмысловых змен і прапаноў плануецца абвясціць міжнародны конкурс на праект Мемарыяла ахвярам масавых палітычных рэпрэсій.

Ажыццяўленне праекта мае быць паэтапным і пастаянна знаходзіцца пад кантролем грамадскасці.

### З МІНУЛАГА

Ідэя конкурсу на лепшы праект мемарыяла «вітае ў паветры» з канца 1980-х, з часу першых публікацый і грамадскіх акцый. У 1993 годзе дайшло да спробы матэрыялізацыі задумы: быў абвешчаны конкурс, да якога мелі непасрэднае дачыненне Міністэрства культуры, Дзяржбуд, Мінскі гарвыканкам, Саюзы архітэктараў, мастакоў, Фонд культуры, свае афіцыйныя меркаванні выказалі царква і касцёл. Як прыгадвае шматгадовы старшыня Хрысціянскай злучнасці «Курапаты» Вацлаў Нямковіч, мастакі прадставілі 51 варыянт помніка. Але яны не задаволілі ні грамадскасць, ні журы конкурсу. І справа пацІху забылася.

Летась спробы абвясціць конкурс рабіліся ініцыятывай «Моладзь у абарону Курапатаў», але яе дзейнасць абмежавалася толькі заявамі для прэсы.

Паводле паведамлення БелаПАН, у канцы мінулага года Беларускі камітэт міру звярнуўся да кіраўніка дзяржавы, прэм’ер-міністра і кіраўнікоў абедзвюх палат парламента з прапановай узвесці ў Курапатах «Мемарыял пралітай крыві» (у 2002-2003 гадах).

Усё вышэй узгаданае ўважліва разглядалася сябрамі ініцыятыў пры фарміраванні канцэпцыі.

## ШТО Ў СУСЕДЗЯЎ



*Екацярынбург. 12-ы кіламетр Маскоўскага тракту. Месца масавых пахаванняў рэпрэсіраваных.*



*Саснагорск. Помнік ахвярам палітычных рэпрэсій.*



*Магаданская вобласць. Помнік памяці ахвярам таталітарызму.*



*Перм. Мемарыяльны музей гісторыі палітычных рэпрэсій і таталітарызму.*



*Варкута. Памятны крыж на месцы масавых пахаванняў ахвяр палітычных рэпрэсій.*

## ПРОГРАММА ТВ — ПОНЕДЕЛЬНИК, 25 ФЕВРАЛЯ

**БТ**

06.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.40 Новости.
06.10, 8.30 Доброе утро, Беларусь!
06.15 Торжественная церемония закрытия XIX зимних Олимпийских игр.
09.10, 17.00 «След оборотня». Сериал..
10.05 Арсенал. Программа об армии.
10.30 Дневник XIX зимних Олимпийских игр.
10.50 Телебарометр. Прогноз погоды.
11.05, 21.50 «Семейные узы». Сериал.
12.20 «Мой реквием».
13.00 «Пой, душа!».
13.25 Х/ф. «Адъютант его превосходительства».1-я серия.
14.40 Док. сериал «Сокровища мировой культуры».
15.20 Детективный сериал «Жюли Леско».
18.20 Зона Икс.
18.30 Дневник XIX зимних Олимпийских игр.
18.50 Драмма «Часы без стрелок».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
22.45 Стадион.
23.10 Планета «АРТ».
00.00 Комедия «ДМБ».

**ОРТ**

07.00, 9.00 Новости.
07.10 Армейский магазин.
07.40 Дисней-клуб. «Детеныши джунглей».
08.05 Утренняя звезда.
08.50 Библиомания.
09.10 «Золотые моменты Олимпиады».
09.45 «Непутевые заметки».
10.05 Пока все дома.
10.40 Клуб путешественников.
11.25 «Серебряный шар».
12.00 Детектив «Тайны отца Даулинга».
15.55 Живая природа. «Прогулки с чудовищами», «Абсолютные убийцы».
17.00 Вечерние новости.
17.15 «КиВиН - 2002».
19.40 Х/ф. «Пик Данте».
21.30 Времена.
22.45 «Золотые моменты Олимпиады».
23.20 Х/ф. «Цирк сгорел и клоуны разбежались».

**РТР**

08.00 «Виктория». Фестиваль солдатской песни.
09.35 Торжественная церемония закрытия Зимних Олимпийских игр.
15.55 Юбилейный концерт Александра Зацепина «Есть только миг...»
17.45 Золотые моменты Олимпиады.
19.00 Вести.
19.35 «Обратная сторона Чек».
20.30 Х/ф. «Брат-2». 2000 г.
23.00 Х/ф. «Жена астронавта».
01.05 - 02.01 «Кинескоп».

**НТВ**

06.55 Анонс дня.
07.00, 9.00, 11.00, 15.00, 18.00 Сегодня.
07.20 Х/ф. «Подкидыш».
09.25 Сериал «Агент национальной безопасности-III».
10.40 Куклы.
11.20 Х/ф. «Отряд особого назначения».
12.55 Сериал «Поющие в терновнике. Пропущенные годы».
15.30 Сериал «Досье детектива Дубровского».
16.40 Концерт, посвященный юбилею Аркадия Хайта.
18.40 Х/ф. «Убийцы».
21.25 Х/ф. «Ближайший родственник».
23.40 - 00.40 Сериал «Звездные врата».

**КУЛЬТУРА**

09.00 Программа передач.
09.10 Тесные врата.
09.25 Х/ф. «Пока бьют часы».
10.55 «Архаос». Цирковая феерия.
11.50 Д/ф. «Подарок от генерала».
12.10 «Сердце не камень». Спектакль Театра Российской Армии.
13.30 Новости культуры.
13.45 «Сердце не камень». Спектакль Театра Российской Армии.
14.45 Мультфильм.
15.05 Анатомия фильма. «Человек-амфибия».
15.55 «Зизи в «Зените». Музыкально-хореографическое шоу (Франция).
17.00 «Тэсс из рода д'Эрбервиллей». Художественный фильм (Англия, 1998). Режиссер Йен Шарп. 3-я серия.
18.00 «Карлсон вернулся». Мультфильм.
18.20 «Острова». Микаэл Таривердиев.
19.00 Смехоностальгия.
19.30 К 90-летию со дня рождения Всеволода Санаева. «Это случилось в милиции». Художественный фильм («Мосфильм», 1963). Режиссер В.Азаров.
21.00 Новости культуры.
21.20 Личные воспоминания о большой жизни.
21.25 «Скажите, девушки...» Поет Алибек Днишев.
22.05 «Эскадрон гусар летучих». Художественный фильм (К/ст. им. М.Горького). Режиссер С.Степанов. 2-я серия.
23.20 - 23.25 Программа передач.

**СТВ**

16.00 Информационная программа «168 часов Минска».
17.00 «Арт-экспресс». Культурные новости столицы.
17.15 «Виртуальный мир».
17.25 «Добро пожаловаться».
17.35 «Портрет в интерьере».
17.50 «Фильм, фильм, фильм...».
18.00 Спортивные новости.
18.15 «Пока горит свеча...».
18.45 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
18.50 «Тема дня».
19.00 «24 часа».
19.15 Детский экран. «Добрый вечер, малыш...».
19.30 «Кино»: Джеки Чан в приключенческом боевике «Доспехи Бога-2».
21.50 «24 часа».
22.05 «Кино»: Курт Расселл, Джеймс Спэйдер в фантастическом боевике Роланда Эммериха «Звездные врата».
00.50 Ночной музыкальный канал.
01.40 «М1». Музыкальная программа.

**ТВЦ**

06.35 Смотрите на канале.
06.40 Людмила Целиковская и Павел Кадочников в музыкальной комедии «Антон Иванович сердится».
08.00 «Как казаки в футбол играли», «Как казаки инопланетян встречали», «Домашний цирк». Мультфильмы.
08.45 Шире круг.
10.00 События. Время московское.
10.15 Фильм-сказка «Тень».
11.40 «Мир дикой природы». Телесериал (Япония).
12.10 Денежный вопрос.
12.30 Чемпионат России по хоккею. Суперлига. «Динамо» - «Авангард». Трансляция с МСА «Лужники». 2-й и 3-й периоды. В перерыве - «События. Время московское».
14.30 «На страже порядка». Телесериал (Франция).
16.20 «Магия». Театральная программа.
17.00 «Лето нашей любви». Юбилейный вечер Вячеслава Малежика.
17.50 Путь к себе.
18.00 «Профессиональные материалы». Телесериал (Франция).
19.00 События. Время московское.
19.40 Особая папка.
20.05 Прогноз погоды.
20.10 Русский детектив. «Версия полковника Зорина».
22.05 События. Время московское.
22.15 На ночь глядя. Софи Марсо и Клод Брассер в фильме «Сошествие в ад» (Франция).
23.50 - 00.50 «Все это время...» Концерт Стинга.

МАЁ ПРАВА

**25 лютага** *ў Мінску а 17-й гадзіне Цэнтр па правах чалавека (вул. Кнорына, 3) праводзіць чарговае паседжанне Міжнароднага клуба адвакатаў. Тэма абмеркавання:* **"Адміністрацыйная адказнасць: практыка адміністрацыйных справаў у судах".**
*Тэл. для даведак 268-40-00.*

# Кахаць па-малададафронтаўску-6

*(Працяг. Пачатак на стар.1)*

Затрыманых, сярод якіх было шмат непаўналетніх, збівалі і па дарозе ў міліцэйскіх машынах, і ў Савецкім РУУС. Як расказаў Зміцер Дашкевіч, у міліцыі яго прыкавалі кайданкамі да батарэі, і палкоўнік Гуранкоў пачаў біць хлопца па твары, таптацца па нагах. Збілі і Стася Івашкевіча. Затрыманых змясцілі на ноч у спецпрыёмнік на вуліцы Акрэсціна, а наступнымі днямі над шасцю ўдзельнікамі акцыі распачаліся судзілішчы.

Грашовыя пакаранні, якія выносілі ў судзе Савецкага раёна, не паддаюцца здароваму сэнсу.

Лідэр Маладога Фронту аштрафаваны суддзёй Русланам Казадаевым за "несанкцыянавае шэсце" на 300 мінімальных заробкаў (гэта 3 мільёны рублёў, ці больш за 1,5 тысячы даляраў), Сяржук Герасімовіч – на 40 "мінімалак" (400 тыс.), Стась Івашкевіч – на 20 (200 тыс.).

Зміцера Дашкевіча суддзя Аксана Рэлява пакарала на 35 "мінімалак" (350 тыс.), Андрэя Казлова – на 25 (250 тыс.), а Васіля Парфянкова наогул пасадзіла на 10 сутак.

Некаторыя з хлопцаў збіраюцца абскарджваць вынесеныя прысуды. Сяржук Герасімовіч гаворыць, што міліцыянты давалі блытаныя паказанні: *"Адзін заявіў, што я быў са сцягам, другі – што без сцяга. Першы казаў, што я ішоў з аднаго боку, другі – зусім з іншага. Міліцыянты складалі пратаколы пад капірку, ва ўсіх затрыманых яны аднолькавыя"*. Зміцер Дашкевіч будзе звяртацца ў пракуратуру са скаргай на міліцыянтаў, якія яго збівалі падчас затрымання і ў Савецкім РУУС.

Справы яшчэ прыкладна 20 падлеткаў будуць разглядаць у камісіях па справах непаўнагадовых пры выканкамах.

Карныя рашэнні судоў выклікалі ў маладых людзей не палахлівую, а зусім адваротную рэакцыю. Яны заявілі, што з гэтага часу будуць удзельнічаць ва ўсіх апазіцыйных акцыях – як санкцыянаваных, так і забароненых.



# ЧТО ДЕЛАТЬ, ЕСЛИ ВЫ ОСТАНОВЛЕНЫ МИЛИЦИЕЙ

*(Окончание. Начало в № 5.)*

ПАМЯТКА

**ЕСЛИ ВЫ ЗАДЕРЖАНЫ И ДОСТАВЛЕНЫ В ОТДЕЛЕНИЕ МИЛИЦИИ**

1. Вы имеете право не отвечать на вопросы сотрудников милиции и поговорить с адвокатом (родителями или близкими, их заменяющими,) прежде, чем вы дадите какие-либо показания. Вы можете сообщить сотрудникам милиции только ваше имя, фамилию и адрес. Вы можете не давать никаких объяснений, оправданий или описаний.

2. Административное задержание может длиться **не более трех часов.** Срок задержания исчисляется с момента доставления гражданина в отделение милиции для составления протокола. Если вы не согласны с содержанием протокола об административном правонарушении, то лучше изложить свою точку зрения в этом протоколе или записать мотивы возражения.

3. Ссылаясь на ст. 240 КоАП, вы вправе требовать уведомления родственников о вашем местонахождении. Не путайте: задерживающие обязаны (ст.6 Закона «О милиции») уведомить ваших родственников, но не обязаны позволить сделать это вам самим. Поэтому не требуйте дать вам позвонить.

**В ВАШЕМ ДОМЕ**

1. Если сотрудники милиции звонят и просят войти в ваш дом, вы можете не впускать их, если они не предоставляют на это санкцию прокурора.

2. В некоторых чрезвычайных ситуациях (например, когда человек кричит о помощи в доме или когда милиция преследует кого-либо) сотрудники милиции могут войти и обыскать ваш дом без санкции прокурора. Требуйте составления протокола обыска, внимательно следите за всеми действиями сотрудников милиции.

Все мы признаем необходимость в эффективной правоприменительной деятельности. Но мы должны также знать наши права и обязанности — особенно в отношениях с милицией. **Каждый,** включая несовершеннолетних, **имеет право на учтивое и почтительное отношение** к себе **со стороны сотрудников милиции.**

Подготовлено общественным объединением «ПРАВОВАЯ ПОМОЩЬ НАСЕЛЕНИЮ» на основе законодательства Республики Беларусь.

*Контактный телефон в г. Минске:* **(017)266-56-54.**
*Телефон доверия МВД в г. Минске:* **(017)229-72-22.**

# Напад на ЗБС

**15 лютага а 19-й гадзіне ў Мінску на моладзь, што збіралася на сход у памяшканні зліквідаванай нядаўна уладамі арганізацыі Задзіночаньне беларускіх студэнтаў (вул. Дарашэвіча, 4-2) учынены разбойны напад.**

Два невядомыя з нажом і разводным ключом уварваліся да студэнтаў. Адзін з тых, хто напаў, быў у аранжавай масцы і пальчатках, другі не хаваў твар, але, як кажуць ахвяры нападу, падобна, быў нападпітку ці ўжыў наркотыкі. Злачынцы адразу ж разбілі тэлефонны апарат і перарэзалі дрот.

Хлопцаў і дзяўчатаў паклалі тварам на падлогу, некаторых звязалі. *"Тых, хто спрабаваў варушыцца, збівалі, тапталіся па іх нагамі,* — распавялі потым студэнты. – *Юрася Храмога прывязалі да стала і махалі нажом ля твару, пагражалі абрэзаць вушы, утыркалі нож ля галавы, прыстаўлялі да горла. Чалавек без маскі паміж лаянкамі распавёў, што ваяваў у Чачні і "такіх" выразаў сотнямі. Калі ён занадта "разышоўся", другі падбег да яго і загадаў адчапіцца ад нас. Ён патлумачыў, што чапаць нас не будуць, бо ім заплацілі не за гэта, і як толькі яны выканаюць заданне – сыдуць"*.

Злачынцы здзекаваліся са сцяга ЗБС і парэзалі на кавалкі першы нумар газеты суполкі ЗБС педагагічнага універсітэта.

Прыкладна праз 20 хвілінаў рабаўнікі сышлі і знеслі камп'ютар з маніторам і калонкамі, мадэм, куртку намесніцы старшыні Рады ЗБС Вольгі Кузьміч з пашпартам, ключамі, грашыма і мабільным тэлефонам.

Ёсць сведкі, што бачылі, як злачынцы, адзін з якіх у масцы, ішлі спачатку па вуліцы Дарашэвіча, а пасля па вул. Я. Коласа. Цікава, што ля сядзібы ЗБС знаходзяцца амбасады Латвіі і Эстоніі, выканкам Савецкага раёна, якія добра ахоўваюцца, непадалёку месціцца і раённая міліцыя, а далей у кірунку, куды ішлі рабаўнікі, — камітэт фінансавых расследаванняў, супрацоўнікі якога неаднаразова ладзілі раптоўныя праверкі ў ЗБС.

Сябры задзіночання адразу ж патэлефанавалі ў міліцыю. Агляд памяшкання цягнуўся да поўначы. У прыватных размовах міліцыянты адзначылі, што пару гадоў таму яны адразу сказалі б, хто гэта зрабіў або замовіў. Зараз жа развялося столькі спецслужбаў, што цяжка дакладна вызначыць, якая з іх замешаная ў гэтай справе.

У тым, што да нападу маюць дачыненне ўлады, у ЗБС не сумняваюцца, і расцэньваюць гэты выпадак як чарговы "наезд" на арганізацыю, якая, нягледзячы на закрыццё, працягвае існаваць і карыстацца аўтарытэтам у студэнтаў. Але цяпер акрамя высяленняў з інтэрнатаў і выключэнняў з навучальных установаў апазіцыйнай моладзі пагражаюць яшчэ і фізічнай распраавай.

*"Цынізм і нахабства беларускіх уладаў не мае межаў,* — гаворыцца ў заяве Рады ЗБС. — *...Калі заказчыкі нападу на сядзібу ЗБС мелі на мэце спалохаць студэнтаў і паралізаваць працу арганізацыі, то яны змарнавалі час і грошы, бо кожны з нас стаў яшчэ мацней, арганізацыя прайшла праз яшчэ адно выпрабаванне. Відавочна, што свабодалюбівыя студэнты ўнушаюць страх злачынцам пры ўладзе. Цяпер яны будуць баяцца яшчэ болей"*.

Як паведаміла кіраўнік Задзіночаньня беларускіх студэнтаў Крысціна Вітушка, наступная кампанія ЗБС будзе прысвечаная прапагандзе здаровага ладу жыцця і фізкультуры. "*Каб маладыя людзі маглі за сябе пастаяць*", — патлумачыла Крысціна.

# Первички СПБ не регистрируют

ПРОФСОЮЗ

**11 февраля судом Октябрьского района г.Могилева было вынесено решение по жалобе Свободного профсоюза Белорусского на действия администрации Октябрьского района в связи с отказом в регистрации первичных организаций СПБ на ОАО «Экран», МоАЗ и частных предпринимателей г.Могилева.**

Судья Н.В. Канцедал постановил, что жалоба СПБ удовлетворению не подлежит по причине того, что профсоюз якобы не доказал в суде, что в перечисленных первичках есть члены профсоюза (несмотря на то, что суду были предоставлены сотни заявлений о вступлении в эти организации), а также ввиду того, что наниматели ОАО «Экран» и МоАЗ отказали первичным организациям в предоставлении помещения и юридического адреса, а у частных предпринимателей такого юридического адреса по месту жительства председателя быть не может.

*«То есть решение суда никоим образом не дает оценку правильности отказа в регистрации администрацией Октябрьского района г. Могилева, а наоборот, суд вместо администрации принимает решение, запрещающее деятельность профсоюза,* – отметил юрист Могилевской областной региональной организации СПБ Александр Королев. – *Фактически суд взял на себя обязанности администрации Октябрьского района, что также подтверждается отсутствием на всех судебных заседаниях представителей местной вертикали. Таким образом, в течение 2-х лет власть вместе с судом водили за нос СПБ, то обязывая зарегистрировать первичные организации профсоюза, то непонятно на каком основании отменяя решения. В конце концов стало понятно, что никакой независимости в действиях судей быть не может».*



## ПРОГРАММА ТВ — ВТОРНИК, 26 ФЕВРАЛЯ

**БТ**
15.00, 18.00, 0.55 Новости.
15.20 «Горец». Мультсериал.
15.40 «Приключения Шерли Холмс». Сериал.
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 x 5».
17.00 Док. сериал «Страны мира».
18.20 Зона Икс.
18.35 Час профессионала.
19.00 «Момо». Худ.фильм.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.50 Х/ф. «Вольный стрелок».
23.20 Спорт-курьер.
23.30 «Рожденная революцией». Худ.фильм. 4-я серия «Мы поможем тебе».

**ОРТ**
14.55 Х/ф. «Горячая точка».
16.00 Большая стирка.
17.00 Вечерние новости.
17.25 Смехопанорама.
17.55 «Земля любви». Сериал.
19.00 Премьера. Дмитрий Дибров в телеигре «Народ против».
20.00 Время.
20.35 «Следствие ведут знатоки. 10 лет спустя». Дело № 23. «Третейский судья». 1-я серия.
21.40 «Кремль - 9».
22.30 Ночное «Время».
23.00 «Цивилизация».
23.30 «Ночная смена».

**РТР**
08.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
08.10 «Селеста, всегда Селеста». Телесериал.
08.45 Семейные новости.
08.50 «Экспертиза РТР». Дайджест.
09.00 Сериал «Остров фантазий».
09.50 Дежурная часть.
10.15 «Санта-Барбара». Телесериал.
16.30 Дорожный патруль.
16.40 Афиша.
16.50 «Экспертиза РТР». Дайджест.
17.00 Сериал «Черемушки».
18.00 «Комиссар Рекс». Телесериал.
19.35 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Сериал «Трое против всех».
21.00 «Обратная сторона. Дети». Часть 1-я.
21.40 Дорожный патруль.
22.15 Местное время. Вести - Москва.
22.25 Х/ф. «Хорошие и плохие». 1999 г.
00.15 - 00.57 «И дольше века...».

**НТВ**
07.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
07.10, 7.35 Утро на НТВ.
07.55, 14.40, 17.35 Криминал.
08.20 Служба спасения.
09.25 Путешествия натуралиста.
10.00 Шоу Елены Степаненко.
11.20 Х/ф. «Опекун».
13.20 Ток-шоу «Принцип «Домино».
15.30 Сериал «Досье детектива Дубровского».
16.45 Алчность.
18.30 Герой дня.
18.50 Сериал «На углу у Патриарших-2».
19.50 Сериал «Дальнобойщики».
21.35 Футбол. Лига чемпионов. «Рома» (Рим, Италия) - «Барселона» (Барселона, Испания).
23.50 Футбол. Лига чемпионов. «Галатасарай» (Стамбул, Турция) - «Ливерпуль» (Ливерпуль, Англия).
01.00 - 01.45 Дневник Лиги чемпионов.

**КУЛЬТУРА**
09.15 «Золотой пьедестал».
09.40 Д/ф. «Войны за слоновую кость».
10.30 Все суры Корана.
10.45 В вашем доме. Эльдар Рязанов.
11.30 Новости культуры.
11.45 Вместе с Фафалей.
12.00 «Веселая карусель». Мультфильм.
12.15 Чем живет Россия.
12.30 Сценограмма.
13.00 «Большая Беке». 1-я серия.
15.00 Новости культуры.
15.10 Сериал «Грозовые камни».
15.35 Мультфильмы.
16.05 «Российский курьер».
16.35 Д/ф. «Войны за слоновую кость».
17.30 Новости культуры.
17.50 Дворцовые тайны. «Юсуповский дворец на Мойке. Юсуповы-младшие».
18.15 «Страсти по-итальянски». Телесериал.
19.08 Анонсы.
19.15 «Партитуры не горят».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 «Цитаты из жизни». Братья Никольские.
20.40 Концертино.
21.00 «В четверг и больше никогда». Художественный фильм.
22.30 «Парижский журнал». Зинаида Серебрякова.
23.00 Новости культуры.
23.20 - 23.25 Программа передач.

**СТВ**
06.00 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
06.30 «Дьяволик». Мультсериал.
07.00 «Железный человек». Мультсериал.
07.30 «Питер Пен». Мультсериал.
08.00 «Тема дня».
08.10 «Виртуальный мир».
08.20 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
08.30 «Кино»: Джеки Чан в приключенческом боевике «Доспехи Бога-2».
11.00 Спортивные новости.
11.15 «Автопанорама».
11.30 «Дарма и Грег». Сериал.
12.00 «24 часа».
12.15 «Случайный свидетель».
12.45 «1/52» Спортивное обозрение.
13.00 «Синдром смерти». Док.фильм.
13.55 «Марш Турецкого-2». Сериал.
15.00 «24 часа».
15.15 «Питер Пен». Мультсериал.
15.40 «Железный человек». Мультсериал.
16.05 «Дьяволик». Мультсериал.
16.30 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
17.00 «Чертенок» Теленовелла.
18.00 Спортивные новости.
18.15 «Здравствуйте, доктор!».
18.30 «Портрет в интерьере».
18.45 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
18.50 «Тема дня».
19.00 «24 часа».
19.15 Детский экран. «Добрый вечер, малыш...».
19.30 «Кино»: Джордж Клуни в боевике «Кровавый прибой».
21.40 «Фаталисты». Сериал.
22.45 «Автопанорама».
23.00 «24 часа».
23.15 «Виртуальный мир».
23.30 «Иллюзион»: братья Маркс в комедии «Утиный суп».
00.55 «М1». Музыкальная программа.

**ТВЦ**
05.00 Информационно-развлекательный канал «Настроение».
07.50 Газетный дождь.
08.00 Смотрите на канале.
08.05 «Однажды у нас вырастут крылья». Телесериал (Мексика).
09.00 Особая папка.
09.40 Телемагазин.
10.00 События. Время московское.
10.15 Телеканал «Дата».
11.30 «Момент истины». Авторская программа А.Караулова.
12.30 Деловая Москва.
13.00 События. Время московское.
13.15 «Инспектор Кестер». Детективный сериал (Германия).
14.20 Как добиться успеха. Доктор Богданов.
14.30 Музыкальная программа «Полевая почта».
14.55 Путь к себе.
15.00 Регионы: прямая речь.
15.30 Ступеньки.
16.00 События. Время московское.
16.15 Дом на набережной.
16.45 Я - мама.
17.15 «Антимония». Интерактивная игра.
18.00 «Без права на любовь». Телесериал (Мексика).
18.50 Пять минут деловой Москвы.
19.00 События. Время московское.
19.15 Лицом к городу.
20.15 «Самозванцы-3». Телесериал.
21.15 Прогноз погоды.
21.20 «Глаза Элен». Телесериал (Франция).
22.15 Времечко.
22.45 Петровка, 38.
23.05 25-й час. События. Время московское.
23.25 Ночной полет.
00.00 «Открытый проект». Молодежный канал.
00.55 - 01.20 Синий троллейбус.

## ГОЛОС

**Эдуард ГРАКОВІЧ,**
*рабочы Мінскага завода аўтаматычных ліній.*

***

*Сведчаць мінуламу зоркі ўгары,*
*Як я да родных вытокаў імкнуся.*
*Бачу і чую з дзіцячай пары*
*Вобраз і голас старой Беларусі.*

*Так і віхурацца думкі мае,*
*Поўныя добрых надзей і запалу.*
*Часта наш край прада мной паўстае,*
*Нібы ў часы маладога Купалы.*

*Я спасцігаю свае карані*
*Нават па складзеных продкамі казках.*
*Даўнія звычаі ўсе бараніць –*
*Самым свяшчэнным лічу абавязкам.*

***

*Сівыя курганы*
*цікава раскапаць.*
*Старэнькія ж дамы*
*паселішч захалусных*
*Таксама пра сябе*
*шмат могуць расказаць,*
*Хоць часам ад тугі*
*і ў іх нямеюць вусны.*

*З гадамі ўсё часцей*
*пустыя хаты ў нас*
*Сумуюць па сваіх*
*наведвальніках рэдкіх.*
*Упарціцца спяваць*
*нацятая струна,*
*Калі на мове струн*
*спяваюць нават рэйкі.*

*А вось да жыцця*
*вяртаюцца цяпер*
*Пацёртыя радкі*
*забытых старадрукаў,*
*Што згублены былі*
*між выцвілых папер*
*І трапілі, аднак,*
*этнографам пад рукі.*

***

*Сад заінелы чакае цяпла.*
*Бель на двары, што і ночкаю светла.*
*Сёння ў мяне на акне расцвіла*
*Кактуса бледна-ружовая кветка.*

*Быццам вясна завітала ў пакой –*
*Шчодрая, вельмі жаданая госця.*
*Пэўна ж, прыгожанькай кветцы такой*
*Вунь як марозныя ўзоры зайздросцяць!..*

***

*Ад бацькоўскіх традыцый адмовіцца*
*Нас не змусіць ніякі агонь.*
*Мы не збочым са шляху свайго.*
*Хай тут нават і непаздаровіцца.*

*І які нам цяжар ні сустрэнецца –*
*Будзем дбаць, колькі духу стае,*
*Спадзявацца на мары свае,*
*Што жыццё ў лепшы бок пераменіцца.*

# ДЗЕ Ж МАЕ ГРОШЫ?

## ВЕК ПРАЦАВАЎ – ЦЯПЕР НА ЗВАЛКУ...

Мне павялічылі пенсію на 20%, а кватплату – на 200%. І лекі падаражэлі амаль напалову. Калі б гэтыя цэны датычылі чаравікаў, дык я і ў старых пахадзіў бы. Але калі я не прыму адпаведныя лекі – памру. І што мне рабіць? 90% пенсіі ідзе на лекі. 30% — на аплату прыватызаванай кватэры. А есці купіць за што? Святым духам харчавацца?

Хто ўкраў мае грошы, тыя, што я чэсна зарабіў? Я не хачу ўспамінаць "сусветнага маскоўскага жуліка Паўлава", які знішчыў усе зберажэнні насельніцтва СССР. Дарэчы, гэтая "морда" павінна была б сядзець пажыццёва ў турме. Бо калі б які-небудзь дробны злодзей украў у людзей такую колькасць грошай – дык век з-за дроту не выбраўся б. Але ж ужо 10 гадоў, як Паўлаў – грамадзянін замежжа.

Хто сёння, у незалежнай Беларусі, накіроўвае мяне ў нябожчыкі? Дарэчы, на ўласныя хаўтуры мне спатрэбіцца не менш чым 15 маіх пенсій. А можа, і болей.

Павага да старых людзей – прыкмета цывілізаванасці нацыі. У нас, на жаль, павага – "калгасная", абразлівая. "Я начальнік – ты дурань". Такі менталітэт "правадыра". І п`яніца-бомж, і працаўнік-"мураш", які ўсё жыццё на дзяржаву гарбаціўся, пенсію амаль аднолькавую атрымліваюць. Дык чым хваліцца? Навошта боўтаюць языком пра поспехі? Каго дурыць урад сваімі пастановамі пра павышэнне пенсій?

Мне як старому і даволі даследчанаму чалавеку здаецца, што наш прэзідэнт не можа вырвацца з таго "дурнога кола", якое сам збудаваў, – у прамысловасці, банкаўскай сістэме, дыпламатыі... Кажуць, што планаваў Рыгоравіч заняць месца віцэ-прэзідэнта Расіі пры Ельцыне, хоць і адмаўляўся публічна. Але пры новым прэзідэнце Расіі нават такога пытання не ўзнікае. І не ўзнікне для Лукашэнкі. Бо прафесійны разведчык "вылічыў" яго крокі на ўсе 100%.



Я не містык, але здаецца, што расійскія «олигархи» ўжо маюць права на большасць нашых прадпрыемстваў. А калі не маюць, то хутка мець будуць.

А што будзем мець мы з вамі, людзі добрыя?

**Павел АНТОСЕЎ.**

# О СКОЛЬКО НАМ ОТКРЫТИЙ ЧУДНЫХ ГОТОВИТ ПРОСВЕЩЕНЬЯ ДУХ...

**Студенческое общежитие – это место, где выживают сильнейшие, а остальные просто терпят веселую жизнь других.**

Я поступила в столичный вуз, один из самых престижных в стране. На первом курсе пришлось снимать комнатку у хозяйки за 20 «баксов». Накладно для родительского кошелька, но в университете обещали, что скоро выделят место в интернате. Это «скоро» наступило к концу второго курса. Счастливая, я поехала осматривать свое новое жилище. Солидное здание в 12 этажей на одной из центральных улиц Минска внушало уважение. Но внутри... Темные узкие коридоры, обшарпанные, давно не крашенные стены, заплеванные, в окурках, полы. Двери все разные: одни аккуратно покрашены, другие обиты старыми одеялами, на третьих — несколько замков и «глазок». Моя комната тоже впечатлила: пять человек. В соседней — еще трое. Итого восемь человек в блоке. Это на один туалет и ванную. Кровать мне досталась у окна, от которого нестерпимо дуло. В комнате холодно, неуютно, грязь скромно припрятана по углам.

Однако все это были пустяки по сравнению с суровой прозой жизни, которую я узнала потом.

... Восемь часов утра. Все обитатели блока на ногах. К столу не подойти — там завтракают трое. У ванной очередь. Кто-то засел в туалете. Завтракаю на своей кровати, выстаиваю очередь в ванную. Прихожу в комнату — девчонки скандалят: кто-то вчера не убрал за собой грязную посуду с общего стола, и на ней за ночь обосновался целый полк тараканов. Я быстро собираюсь и с облегчением вылетаю из комнаты.



Четыре «пары» напряженных занятий. Сижу в читалке, готовлюсь к семинару. Клюю носом, спать хочется. Вчера легла, как обычно, в пол-второго ночи. Раньше в комнате никто не ложится. Одна что-то зубрит, другая сушит голову феном, третья обсуждает с подружкой интимные вопросы, причем на всю комнату. Как я узнала, здесь в ходу поговорка: хочешь спать – заснешь. Вот и сейчас: хочется завалиться и хоть полчаса поспать. Не тут-то было! В комнате сидит компания. Пьют пиво, бурно обсуждают чьи-то приключения. Просить их говорить потише бесполезно. Сжав зубы, готовлю ужин. В холодильнике не нахожу своего сала. Спрашиваю у соседок, не взял ли кто «по ошибке». Оказалось, Марине, к которой пришла компания, нечем было угощать друзей. «Я тебе потом куплю», — обещает Марина.

... Через неделю после моего заселения у нас появляется новый жилец — парень одной из моих соседок. С собой он приносит компьютер. По ночам работает, стучит по клавишам над самым ухом. Его не смущает, что живет в нашей комнате. При всех ругается со своей девушкой, даже бьет ее. Никто не пытается его выгнать. И я терплю вместе со всеми, понимая свою слабость. Если начну возмущаться, меня не поддержат. «У них ведь любовь...». Многие парни переселяются в комнаты к своим пассиям, где и поуютнее, и посытнее. Девчонки их кормят, обстирывают. Влюбленным часто невдомек, что рядом тоже живут люди, которым эти «семейные» отношения мешают нормально учиться, спать по ночам.

Такие условия кого угодно сведут с ума. В прямом смысле слова. Одна моя знакомая после очередной бессонной ночи однажды утром схватилась за нож и погналась за соседками. Те успели спрятаться, а она ранила постороннего человека. Вызванная психбригада «скорой помощи» забрала девушку. В университет она до сих пор не вернулась...

К жизни в общаге можно приспособиться, что и делает большинство. Быть «белой вороной» тяжело, вот потому и курят, пьют, а то и травку нюхают или употребляют кое-что посильнее – эти «снадобья» из-под полы продают иностранцы, живущие в общежитии. Конечно, не все поголовно в общежитии такие. Есть немногочисленная категория студентов, которые пытаются добросовестно учиться. Одни занимаются в «читалках», если соседи невыносимые, другие «строят» своих сожителей, чтобы обеспечить себе рабочую атмосферу, их здесь презрительно называют «заучками». Мои же попытки упорядочить свою жизнь в общежитии пока ни к чему не привели. Я вновь подумываю о переезде на квартиру. Но ведь даже «угол» у хозяйки стоит не меньше 15 долларов, тогда как моя стипендия составляет всего 10.

Я понимаю: надо искать работу. Хоть официанткой, хоть посудомойкой. Так работают многие студенты, которые не надеются на родителей и нищенскую стипендию. Ведь хочется и одеться прилично (столица как-никак), и поесть не только кефира с батоном, и в театр сходить... Недавно одна моя подруга устроилась работать барменшей. Заработок — чтобы только свести концы с концами. Рабочий день — с пяти дня до двенадцати ночи. Разливает спиртное с точностью до миллиметра, продает сигареты, кокетничает с клиентами. А в общежитии замертво падает на кровать, просыпает первые «пары». Учиться стала хуже, не успевает готовиться к семинарам...

**Анна ЦЫБУЛЬСКАЯ.**

## ПРОГРАММА ТВ — СРЕДА, 27 ФЕВРАЛЯ

**БТ**
06.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 0.20 Новости.
06.10, 7.10, 8.10 Доброе утро, Беларусь!
09.10, 17.00 «След оборотня». Сериал.
10.05 Здоровье. Тележурнал.
10.30, 15.40 «Приключения Шерли Холмс». Сериал.
11.00, 21.50 «Семейные узы». Сериал.
12.20 Добрый день, Беларусь!
13.05 «Адъютант его превосходительства». Худ.фильм. 2-я серия.
14.30 Время местное.
15.20 «Горец». Мультсериал.
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 x 5».
18.20 Зона Икс.
18.35 «Москва - Минск».
19.00 Х/ф. «Огнём и мечом». 1-я и 2-я серии.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
22.40 Спорт-курьер.
22.50 «Рожденная революцией». Худ.фильм. 5-я серия «Шесть дней».
00.40 Криминальное досье.
01.05 «Встреча в Троицком».

**ОРТ**
15.00, 20.35 «Следствие ведут знатоки. 10 лет спустя».
16.00 Большая стирка.
17.00 Вечерние новости.
17.25 Русский экстрим.
17.55 «Земля любви». Сериал.
19.00 Премьера телеигры «Народ против».
20.00 Время.
21.40 «Как это было».
22.30 Ночное «Время».
23.00 «Сати».
23.30 «Ночная смена».

**РТР**
07.10 Национальный доход.
07.15 Москва - Минск.
07.30, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
07.35 Вести - спорт.
07.40 Экспертиза РТР.
07.50 Вести - Москва.
08.10 «Селеста, всегда Селеста». Телесериал.
08.45 Семейные новости.
08.50 «Экспертиза РТР». Дайджест.
09.00 Сериал «Остров фантазий» (США).
09.50 Дежурная часть.
10.15 «Санта-Барбара». Телесериал.
16.30 Дорожный патруль.
16.40 Афиша.
16.50 «Экспертиза РТР». Дайджест.
17.00 Сериал «Черемушки».
18.00 «Комиссар Рекс». Телесериал.
19.35 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Сериал «Трое против всех».
21.00 «Обратная сторона. Дети». Часть 2-я.
21.40 Дорожный патруль.
22.15 Местное время. Вести - Москва.
22.25 Союз бывших. Документальный фильм Алексея Денисова «Эстония».
23.25 - 01.13 Х/ф. «Шаманы пустыни».

**НТВ**
07.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
07.10, 7.35 Утро на НТВ.
07.50, 18.50 Сериал «На углу у Патриарших-2».
09.20 Алчность.
10.00 Квартирный вопрос.
10.35 «Среда».
11.20 Х/ф. «Бармен из «Золотого якоря».
13.20 Ток-шоу «Принцип «Домино».
14.40, 17.35 Криминал.
15.30 Сериал «Досье детектива Дубровского».
16.45 Алчность.
18.30 Герой дня.
19.50 Сериал «Дальнобойщики».
21.35 Футбол. Лига чемпионов. «Депортиво» (Ла-Корунья, Испания) - «Ювентус» (Турин, Италия).
23.50 Футбол. Лига чемпионов. «Арсенал» (Лондон, Англия) - «Байер» (Леверкузен, Германия).
01.00 - 01.45 Дневник Лиги чемпионов.

**КУЛЬТУРА**
09.15 Ток-шоу «Наобум».
09.40 Происхождение человека. «Тело».
10.30 «Лиса и заяц». Мультфильм.
10.45 Кинопанорама.
11.30 Новости культуры.
11.45 Вместе с Фафалей.
12.00 «Веселая карусель». Мультфильм.
12.15 Чем живет Россия.
12.30 «Короли смеха».
13.00 «Большая Беке». 2-я серия.
14.40 М.Плетнев. Детские песни на стихи Романа Сефа.
15.00 Новости культуры.
15.10 «Грозовые камни». Телесериал.
15.35 «Сказка сказок». Мультфильмы.
16.10 Машины времени.
16.40 Происхождение человека. «Тело».
17.30 Новости культуры.
17.50 Кто мы? «Анатомия русской бюрократии». Передача 7-я.
18.15 «Страсти по-итальянски». Телесериал.
19.15 «В доме у Станиславского». Часть 1-я.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 XX век. Избранное.
20.45 Х/ф. «Чистое небо».
22.30 «Апокриф».
23.00 Новости культуры.
23.20 - 23.25 Программа передач.

**СТВ**
06.00 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
06.30 «Дьяволик». Мультсериал.
07.00 «Железный человек». Мультсериал.
07.30 «Питер Пен». Мультсериал.
08.00 «Тема дня».
08.10 «Виртуальный мир».
08.20 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
08.25 «Завтрак с Ликой».
08.30 Х/ф. «Кровавый прибой».
11.00 Спортивные новости.
11.15 «М1». Музыкальная программа.
11.30 «Дарма и Грег». Сериал.
12.00 «24 часа».
12.15 «Случайный свидетель».
12.45 «Безумство храбрых». Док.фильм.
13.55 «Фаталисты». Сериал.
15.00 «24 часа».
15.15 «Питер Пен». Мультсериал.
15.40 «Железный человек». Мультсериал.
16.05 «Дьяволик». Мультсериал.
16.30 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
17.00 «Чертенок» Теленовелла.
18.00 Спортивные новости.
18.15 «Радио-точка».
18.35 «Фильм, фильм, фильм...».
18.45 «Премьер-парад «Столичный».
18.50 «Тема дня».
19.00 «24 часа».
19.15 «Добрый вечер, малыш...».
19.30 Х/ф. «Брат якудзы».
22.00 «Фаталисты». Сериал.
23.05 «24 часа».
23.20 «Виртуальный мир».
23.30 «М1». Музыкальная программа.
23.50 «Иллюзион»: «Парад».
01.40 «М1». Музыкальная программа.

**ТВЦ**
05.00 «Настроение».
07.50 Газетный дождь.
08.00 Смотрите на канале.
08.05 «Однажды у нас вырастут крылья». Телесериал (Мексика).
09.00 Квадратные метры.
09.10 «Степа-моряк». Мультфильм.
09.40 Телемагазин.
10.00 События. Время московское.
10.15 Петровка, 38.
10.30 Телеканал «Дата».
11.20 «Петербургские тайны». Телесериал.
12.30 Деловая Москва.
13.00 События. Время московское.
13.20 «Инспектор Кестер». Сериал.
14.20 Дамский клуб.
14.30 «Как вам это нравится?!».
14.55 Путь к себе.
15.00 Регионы: прямая речь.
15.30 Мультпарад.
16.00 События. Время московское.
16.15 «Шесть Иванов - шесть капитанов». Мультфильм.
16.30 «Рекорд-2001».
17.15 Виктор Борцов в программе «Приглашает Борис Ноткин».
18.00 «Без права на любовь». Телесериал (Мексика).
18.50 Пять минут деловой Москвы.
19.00 События. Время московское.
19.40 «Самозванцы-3». Телесериал.
20.40 Секретные материалы: расследование ТВЦ.
21.10 Прогноз погоды.
21.15 «Глаза Элен». Телесериал.
22.15 Времечко.
22.45 Петровка, 38.
23.05 25-й час.
23.25 Ночной полет.
00.00 «Открытый проект».
00.55 - 01.20 Синий троллейбус.

